© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №16-17(1-2), 2011

Сяргей Богдан

# Арыгінальнае даследаванне па неарыгінальнай прабleме

*Manufacturing Enemy Images? Russian Media Portrayal of Latvia (2008).*
Ed. Nils Muižnieks. Rīga: Academic Press of the University of Latvia. 168 p.

Кніга групы навукоўцаў з Латвійскага ўніверсітэта пад рэдакцыяй Нільса Муйжніекса (Nils Muižnieks) «*Прадукаванне вобразаў ворага? Адлюстраванне Латвіі расійскімі СМІ*» вылучаецца з агульнай плыні навуковых публікацыяў адразу шэрагам аспектаў. Па-першае, сваім палітычным падтэкстам – на тле дэманізацыі Латвіі расійскай дзяржавай кніга – вольна ці нявольна – сталася адказам расійскай палітыцы ў такой вось нечаканай форме. Гэтая палітычная платформа зусім не псуе агульнага выніку, аднак не дазваляе ўспрымаць публікацыю як чыста навуковае даследаванне. Зрэшты, ажыццявіць такую працу аўтары змаглі якраз дзякуючы падтрымцы латвійскага Міністэрства замежных справаў, якое замовіла ў свой час нятанны маніторынг сродкаў масавай інфармацыі Расіі за колькі гадоў.

Па-другое, кніга выразна выкананая ў заходняй навуковай традыцыі, што датычыць стылю тэксту, яго арганізацыі, а таксама самой мовы. Так, як напісаная гэтая кніга, навуковыя тэксты ў постсавецкай навуцы не пішуць. Да перавагаў варта дадаць і тое, што выдаўцы максімальна падагналі тэкст да амаль стандартнай ангельскай мовы, дзякуючы чаму ён успрымаецца без цяжкасцяў, з якімі звычайна даводзіцца сутыкацца, чытаючы ангельскамоўныя выданні з постсавецкага рэгіёну.

## Расійскі кантэкст: множнасць меркаванняў як прыкмета слабасці ўлады

Першая частка кнігі прысвячаецца палітычнаму кантэксту і гістарычнай спадчыне. Томс Ростакс (Toms Rostoks) разглядае стасункі паміж СМІ і дзяржавай у Расіі. Паводле яго, нельга сказаць, каб медыя ў Расіі

карысталіся праўдзівай свабодай нават пасля распаду СССР, але магчымасці для свабоднай журналістыкі ў 1990-я ўсё-ткі былі большыя. Расійскія СМІ хутка зрабіліся «*інструментам у руках палітычных і эканамічных груповак*» (с. 23), бо не далі рады адаптавацца да новых умоваў гаспадарання. Менавіта з фінансавых прычынаў медыя не змаглі тады існаваць без дапамогі дзяржавы або прыватных уласнікаў. Свабода СМІ зменшылася пасля прыходу да ўлады Уладзіміра Пуціна. Пры дапамозе разнастайных механізмаў – ад судовых працэсаў да абмежавання доступу да інфармацыі ды фізічных нападаў на журналістаў – быў усталяваны больш жорсткі кантроль Крамля за медыя.

Томс Ростакс кажа, што гэтыя змены не прайшлі незаўважанымі для расійскай грамадскасці, аднак з цытаваных ім звестак сацыялагічных апытанняў гэта якраз не вынікае, затое відаць прыкметная супярэчлівасць у стаўленні расіянаў да свабоды СМІ. Як зазначае даследнік, жыхары краіны, праўдападобна, сімпатызуюць ідэі «моцнай і магутнай Расіі», і сярод іх шырока распаўсюджанае меркаванне, што для яе пабудовы патрэбная цэнзура. Пры гэтым грамадзяне Расіі ведаюць, што кантраляваныя дзяржавай тэлеканалы не кажуць ім усёй праўды, аднак выказваюць ім давер, бо тыя паказваюць вобраз краіны, які яны прагнуць пабачыць, і ўмацоўваюць нацыянальную самапавагу. «*Лепей глядзець добрыя навіны, што не адпавядаюць рэчаіснасці, чым кепскія навіны, што нагадваюць жыхарам Расіі пра ўстойлівыя сацыяльныя праблемы*» (с. 24).

Свабода прэсы і доступ да альтэрнатыўных крыніцаў інфармацыі ў Расіі змяншаюцца. Улады кантралююць інфармацыйную плынь, законы ўжываюцца выбарачна, і ў дзяржавы ёсць мноства сродкаў ціску на СМІ, якія не паддаюцца ўрадаваму кантролю. Але праблема да пэўнай ступені існуе і з самімі журналістамі, іх нізкімі этычнымі і прафесійнымі стандартамі. Журналісты «*трымаюцца думкі, што не можа быць незалежных СМІ, што СМІ ёсць часткай структуры ўлады, а множнасць меркаванняў ёсць прыкметай слабасці ўладароў*» (с. 25).

У наступным раздзеле Крысцінэ Дараненкава (Kristīne Doroņenkova) разбірае імідж Латвіі ў Расіі як спадчыну 1990-х, бо, сцвярджае яна, адмоўнае стаўленне да Латвіі кшталтавалася ў першыя гады аднаўлення незалежнасці, калі краіна ў сваёй вонкавай палітыцы адмежавалася ад усіх постсавецкіх інтэграцыйных ініцыятываў. На думку аўтаркі, гэта пацвярджаецца гэтаксама тым, што аналагічнае стаўленне расіяне выяўлялі і да Літвы, дарма што там не было такіх раздражняльных чыннікаў, як праблемы з рускамоўнай меншасцю.

Агулам, кажа даследчыца, усе тры балтыйскія дзяржавы ўяўляюць з сябе «*адну адзінку ва ўспрыняцці расейцаў*» (с. 36), а ўзровень ведаў пра становішча і палітыку балтыйскіх краінаў занізкі, каб можна было казаць пра інфармаванае меркаванне. Зрэшты, наўрад ці можна было чакаць таго ад паспалітых грамадзянаў

любой краіны. І тут, мабыць, варта было б выразна вылучыць эліты і прафесійныя групы, якія фармуюць дыскурс у СМІ, што ў сваю чаргу ўплывае на паспалітых грамадзянаў, а не чакаць немагчымага.

Як даводзіць Крысцінэ Дараненкава, у сваіх думках наконт былых савецкіх рэспублікаў расійскія рэспандэнты арыентаваныя на мінулае. Стаўленне да АПАД (NATO) калі і не варожае, дык прынамсі насцярожанае, і грамадскасць ідзе за афіцыйнаю лініяй. Натуральна, што ў выніку выказанае ўжо ў сярэдзіне 1990-х імкненне пэўных постсавецкіх краінаў, у тым ліку Латвіі, уступіць у АПАД замест цяснейшай супрацы з Масквою (адмоўна) паўплывала на імідж Латвіі ў грамадскай думцы Расіі. Пры гэтым праблемы рускамоўнай меншасці і яе «беды» таксама аказалі ўплыў на танальнасць расійска-латвійскіх адносінаў, але «*толькі ў звязку з іншымі чыннікамі праблема меншасці рабілася складовым чыннікам фармавання адмоўнага грамадскага стаўлення да Латвіі*» (с. 36).

Урэшце артыкул Дмітрыйса Пятрэнкі (Dmitrijs Petrenko) і Салвіты Дэніс (Solvita Denis) прысвечаны рэдакцыйнай палітыцы расійскіх СМІ і журналістаў у Латвіі. Даследнікі апыталі сем латвійскіх журналістаў, якія забяспечваюць матэрыяламі расійскія СМІ. Высветлілася, што яны ўспрымаюць сваю працу як бізнес і ставяцца да падрыхтоўкі матэрыялаў надзвычай прагматычна – рыхтуюць тое, што будзе мець попыт, дазволіць атрымаць прыбытак або працягнуць супрацу. Журналісты ў Латвіі са сваёй ініцыятывы прапаноўваюць сваім замоўцам з Масквы тыя або іншыя ідэі матэрыялаў, аднак яны загадзя ведаюць, што мае попыт, і адпаведна дапасоўваюць сваю прапанову. Самая папулярная тэма – праблема рускамоўных у Латвіі, якая, на думку некаторых латвійскіх журналістаў, што працуюць для расійскіх СМІ, нават «*ёсць часткай расійскай унутранай палітыкі*» (с. 38). Таксама карыстаюцца попытам «*любыя віды адмоўнай інфармацыі аб прадстаўніках латвійскай дзяржавы*» (с. 39) і палітычныя або эканамічныя новаўвядзенні, якія Расія збіраецца ўвесці, а Латвія ўжо ўкараніла.

Але пытанне не толькі ў тэматыцы, заявілі рэспандэнты, але і ў танальнасці, то бок большы попыт маюць скандальныя «жоўтыя» матэрыялы і матэрыялы «глабальнага характару». Некаторыя апытаныя журналісты аспрэчылі ідэалагічнае ўмяшанне маскоўскіх рэдактараў, аднак, тлумачачы дэталі рэдагавання, фактычна тут жа пацвердзілі яго. Прытым яны прызналі, што пазіцыя, займаная імі ў матэрыяле, можа не супадаць з іх уласнай. Больш за тое, некаторыя спрабавалі тлумачыць палітычную арыентацыю матэрыялаў спасылкамі на расійскую вонкавую палітыку ў цэлым.

Зрэшты, пазіцыі рэспандэнтаў чакана разыходзіліся. Калі адны казалі пра сваю місію абароны рускамоўных у Латвіі праз расповеды пра іх становішча ў расійскіх СМІ, дык іншыя сцвярджалі, маўляў, няма ў іх ніякай місіі – «грошы зарабляю!». Таксама журналісты супярэчліва

ацэньваюць эфектыўнасць сваёй працы – кажучы, што могуць паўплываць на двухбаковыя адносіны, яны тут жа адмаўляюць журналістыку як палітычны сродак, маўляў, мы не ствараем іміджу дзяржавы, а толькі адлюстроўваем яго.

У цэлым цікавасць расійскіх медыя да латвійскіх тэмаў апошнім часам падае. Нехта звязвае гэта са стомленасцю ад паўтору тых самых тэмаў, нехта спісвае ўсё на змены нацыянальнай палітыкі ў Латвіі. Іншыя ж тлумачаць гэта тым, што актуальнымі зрабіліся «больш балючыя» пытанні, у прыватнасці Беларусь і Украіна. «*Гэтакім ускосным чынам журналісты пацвярджаюць, што медыйная палітыка ў дачыненні да Латвіі залежыць ад вонкавай палітыкі Расіі*» (с. 43).

## Рускамоўная грамада Латвіі: дыскурс адасобленасці

Другая частка беспасярэдне прысвечаная адлюстраванню Латвіі ў расійскіх СМІ ў 2002 – сярэдзіне 2005 года. Дмітрыйс Пятрэнка (Dmitrijs Petrenko) вывучае, як апісвалася жыццё расійскай грамады ў 2003–2005 гадах. Ён зазначае: «*пры аналізе паведамленняў у СМІ аб жыцці рускай меншасці ў Латвіі бачна, што ўсе яны характарызуюцца пэўнаю міждыскурсіўнасцю*» (с. 75), а таму разглядаць іх трэба ва ўзаемасувязі і ўзаемадачыненні. Закранаючы жыццё расіян у Латвіі, СМІ ўводзяць сваю аўдыторыю ў шырэйшы дыскурс стасункаў унутры гэтай супольнасці, яе ўзаемінаў з уладамі і з Расіяй. Прытым дыскурсы вызначаюцца таксама міжтэкстуальнасцю, бо матэрыялы часцяком аказваюцца рэакцыяй на іншыя журналісцкія тэксты або на пэўныя падзеі ў расійска-латвійскіх стасунках.

Распавядаючы пра расіян у Латвіі, паводле Дмітрыйса Пятрэнкі, расійскія СМІ кажуць пра аб'яднаную грамаду з выразнымі этнічнымі межамі, прадстаўнікі якой трымаюцца адзінай пазіцыі ды падзяляюць супольныя каштоўнасці. Пры гэтым адною з найважнейшых тэмаў у жыцці супольнасці выступае быццам бы сувязь з Расіяй. Пэўныя падзеі – накшталт судоў над ветэранамі КДБ – выкарыстоўваюцца, каб прадэманстраваць не толькі адзінства супольнасці і яе адчужанасць ад Латвіі, але і неабходнасць знешняй падтрымкі. Расійскія СМІ, зазначае даследнік, не толькі пастаянна артыкулююць тэму дыскрымінацыйнага стаўлення, але такое стаўленне ў іх дыскурсе фактычна характарызуе і вызначае гэтую грамаду ды апраўдвае расійскі медыйны і грамадскі інтарэс да нейкіх падзеяў у Латвіі.

Асабліва актыўна расійскія СМІ крытыкуюць катэгорыю «неграмадзянаў», якую яны апісваюць з'едліва, робячы «дыскурсіўна нелегітымнаю». Асвятляючы падзеі, медыя з Расіі ў якасці кантэксту выкарыстоўваюць адносіны расійскай грамады з уладамі, канструюючы ў працэсе дыскурс адасобленасці (discourse of separation). Улады пры гэтым нязменна адыгрываюць негатыўную

ролю, а грамада падаецца «прыгнечанаю». Маўляў, грамада хоча далучыцца да шырэйшае грамадзянскае культуры, а ўлады адмаўляюць ёй у гэтым. Менавіта ўлады, кажа Дмітрыйс Пятрэнка, фігуруюць у гэтым дыскурсе ў якасці негатыўнага актара, праціўніка рускай супольнасці. Латышы ж увогуле ніякім чынам не згадваюцца.

Расійскія медыя малююць карціну жыцця грамады пад пагрозаю, пад сацыяльным і псіхалагічным ціскам. У прыватнасці, як зазначае Пятрэнка, распавядаючы аб працэсах над савецкімі ветэранамі, яны намякаюць, што пытанне не ў асобных падсудных, а ў звядзенні парахункаў. Ён акрэслівае схему наступным чынам: «*расійскі вайсковы ветэран пазбаўлены права на жыццё ў Латвіі – яго сям'я падзеленая – любы расіянін у Латвіі можа апынуцца ў гэтай сітуацыі*» (с. 77).

Адначасова, асвятляючы жыццё расіянаў у Латвіі, расійскія СМІ малююць і вобраз самой Расіі як магутнай краіны, здольнай вырашыць праблемы сваіх суайчыннікаў. У прыватнасці, гэта дасягаецца праз паказ людзей, якія дзякуюць за дапамогу Расіі або яе прэзідэнту. І калі раней расійская магутнасць выяўлялася на тле «маленечкай» Латвіі, дык пасля ўступлення Латвіі ў Еўразвяз прывабны вобраз Расіі, якая дапамагае грамадзе, малюецца ўжо на тле ЕЗ, які, нягледзячы на свае памеры, нібыта няздатны вырашыць праблемы рускай супольнасці ў Латвіі, даводзіць Дмітрыйс Пятрэнка.

## Негатыў: гісторыя, АПАД

У наступным артыкуле Салвіта Дэніс разбірае гістарычныя спрэчкі і адмысловы кантэкст гісторыі Латвіі ў XX стагоддзі як інструмент канструявання іміджу краіны. Пытанне разглядаецца праз дзве часавыя рамкі. Першая датычыць XX стагоддзя ў яго цэласці як гістарычнага кантэксту. Праз другую яна даследуе «*пікавыя гады, у дачыненні да якіх адбываецца рытуалізацыя навінаў*» (с. 79).

Два асноўныя перыяды, вылучаныя па выніках даследавання, – гэта 1) час гэтак званых латышскіх стралкоў, азначаны ўтварэннем СССР і латышскай нацыянальнай дзяржавы; і 2) 1940-я гады, азначаныя савецкай анексіяй Латвіі ды «Вялікай Айчыннай вайной». Як зазначае Салвіта Дэніс, рэшта стагоддзя расійскія медыя асабліва не цікавіць, і нават барацьба за аднаўленне незалежнасці згадваецца пераважна ў звязку з працэсамі над былымі савецкімі амапаўцамі.

Дзвюма асноўнымі гістарычнымі датамі ў журналісцкіх матэрыялах сталіся 16 сакавіка і 9 траўня. Першая дата датычыць шэсця былых удзельнікаў пранямецкіх вайсковых фармаванняў і прывязаная да пачатку баявых дзеянняў супраць савецкай арміі ў 1944 годзе. Пра шэсце расійскія СМІ пішуць нават у тыя гады, калі яго не ладзяць, бо дата зрабілася для іх самастойнаю тэмаю. У дыскурсе «Дня перамогі» расійскія медыя ў асноўным распавядалі пра адрозненні ў становішчы

савецкіх ветэранаў у Латвіі ды Расіі. Трэцяю важнаю датай у гэтым кантэксце ёсць кастрычнік – час «вызвалення» Латвіі ды Рыгі ад нямецкіх войскаў.

Сталым матывам усіх навінаў, датычных гісторыі, ёсць абвінавачанні на адрас латвійскага боку ў «перапісванні гісторыі», прытым актыўная роля ў гэтым працэсе надаецца Латвіі, а пасіўная – Расіі. У гэтым кантэксце ў расійскіх медыя жорстка крытыкуецца і латвійская інтэрпрэтацыя гісторыі 1940-х гадоў як «акупацыі» (адпаведна, другой акупацыі) Латвіі Савецкім Саюзам, якой супрацьпастаўляецца савецка-расійская версія падзеяў – «вызваленне» (адпаведна, Дзень перамогі над нацысцкаю Нямеччынай). Латвійскае «перапісванне гісторыі» расійскія каментатары тлумачаць рэваншызмам ды магчымымі матэрыяльнымі і тэрытарыяльнымі прэтэнзіямі Латвіі. У тым самым ключы разглядаецца і пытанне спрэчных тэрыторыяў і латвійска-савецкая дамова 1920 года.

Але асноўная ўвага надаецца, безумоўна, падзеям Другой сусветнай вайны. У звязку з памятнымі шэсцямі ветэранаў пранямецкіх вайсковых аддзелаў раздзімаецца тэма «адраджэння фашызму», якое сімвалізуюць маршы «ветэранаў СС». Павышэнню значэння гістарычнай тэмы спрыялі і праведзеныя ў Латвіі судовыя працэсы над ветэранамі савецкага войска і органаў дзяржбяспекі. На тле іх гераізацыі ў мінулым у сучаснасці яны выяўляюцца расійскімі СМІ як ахвяры, даводзіць Салвіта Дэніс, абапіраючыся ў прыватнасці на супастаўленне вербальных характарыстыкаў розных групаў у расійскіх медыя – адпаведныя табліцы прыемна вылучаюць яе артыкул з усёй кнігі.

На жаль, даследніца надае няшмат увагі першаму вылучанаму ёй перыяду – часу «латышскіх стралкоў», толькі мімаходзь пазначаючы, як гэты сюжэт выкарыстоўваецца, каб «прывязаць» латышоў да савецкай дзяржавы.

Томс Ростакс распавядае пра адлюстраванне далучэння Латвіі да ЕЗ і АПАД у расійскіх СМІ. Пашырэнне АПАД было для іх нашмат важнейшае за пашырэнне Еўразвязу і выклікала куды больш публікацыяў ды інфармацыйных матэрыялаў, а само асвятленне тэмы вылучалася большай эмацыйнасцю. Імідж Латвіі ў кантэксце пашырэння АПАД быў пераважна адмоўны, і ў гэтым дачыненні не змяняўся цягам усяго разгледжанага перыяду. Гэта не здзіўляе, бо і сама АПАД ацэньвалася негатыўна, і латвійска-расійскія дачыненні асабліва не змяняліся.

Крытыка далучэння да АПАД вялася ў двух кірунках. З аднаго боку, маўляў, Латвія не можа гэтага сабе дазволіць з фінансавых прычынаў, апроч таго, яна не адпавядае неабходным крытэрам дэмакратыі. З другога боку, АПАД, маўляў, пагражае Расіі, а ў рамках гэтага звязу Латвія зробіцца памагатым Злучаных Штатаў у іх замахах на расійскія інтарэсы.

Самыя адмоўныя меркаванні наконт уступлення Латвіі ў АПАД выказвалі ў СМІ прадстаўнікі расійскай вайсковай эліты. Больш стрыманымі былі палітыкі і ўрадоўцы, за

выключэннем Генадзія Зюганава і Уладзіміра Жырыноўскага, хаця занепакоенасць выказвалі і прадстаўнікі палітычнай эліты. Нягледзячы на роскід меркаванняў журналістаў, яны таксама дэманстравалі адмоўнае стаўленне да сяброўства Латвіі ў АПАД. Найменш занепакоенымі ў СМІ выглядалі палітолагі (political scientists), хаця і яны займалі крыху негатыўную пазіцыю ў гэтым пытанні.

Расійскія медыя менш негатыўна асвятлялі ўступленне Латвіі ў ЕЗ, балазе вайсковыя аспекты ў гэтым кантэксце не закраналіся. Але, як і ў выпадку з АПАД, сюжэт быў афарбаваны негатыўна за кошт тэмы дыскрымінацыі неграмадзянаў і рускамоўных. «*Гэтае пытанне* [дыскрымінацыі – ***С.Б.***] *ёсць, імаверна, галоўнаю рухальнаю сілаю, якая стаіць за негатыўным вобразам Латвіі ў расійскіх масмедыя, і яно выплюхваецца вонкі ў адлюстраванні амаль кожнага аспекту латвійска-расійскіх адносінаў*» (с. 144), – піша Томс Ростакс, адзначаючы, што ў такой сітуацыі ўвогуле немагчыма казаць пра існаванне самастойнага вобразу далучэння Латвіі да АПАД і ЕЗ – ён выціснуты сюжэтам аб «прыгнёце» рускамоўных.

## Пазітыў: культура і эканоміка

Даследаванне Крысцінэ Дараненкавай прысвячаецца тэме латвійскай культуры. Яна зазначае, што расійскія СМІ падаюць даволі разнастайны вобраз латвійскай культуры, у прыватнасці, уключаюць сюжэты з сучаснага латвійскага тэатра, оперы, класічнай і папулярнай музыкі ды г. д. «*Асвятленне латвійскай культуры расійскімі медыя больш пашыранае, чым асвятленне расійскай культуры латвійскімі СМІ*» (с. 125), то бок усё-такі расійскі бок цікавіцца латвійскім больш. Праўда, вобраз латышскай культуры малюецца змяшаным, у ім прысутнічаюць і станоўчыя, і адмоўныя аспекты.

Як зазначае аўтарка, збольшага станоўчыя паведамленні адносяцца да навінаў пра тэатр і оперу, аднак надзвычай мала ўвагі надаецца латышскім традыцыям, у прыватнасці песенным фэстам і танцам. Увогуле ж, згадкі пра знакамітых яшчэ ў савецкія часы дзеячаў латвійскай культуры кшталту Райманда Паўлса, Віі Артмане і Лаймы Вайкуле прысутнічаюць у расійскіх СМІ часцей, чым пра маладзейшых прадстаўнікоў латвійскай культуры.

Кіраўнік праекта выдання кнігі Нільс Муйжніекс бярэцца за разгляд тэмы латвійскай эканомікі ў расійскіх СМІ. У асвятленні тэмаў, звязаных з эканомікаю Латвіі, зазначае ён, станоўчыя аспекты пераважаюць над адмоўнымі. Краіна выяўляецца як прыклад эканамічна паспяховай дзяржавы з развітай інфраструктурай і высакаякасным абслугоўваннем у транспартнай, фінансавай і турыстычнай галінах. Асноўныя яе сімвалы – порт Вентспілс, банк «Парэкс», Рыга і Юрмала як месцы для адпачынку і вандровак.

Рускамоўныя каментатары здзіўленыя гатоўнасцю латышоў прыязна абыходзіцца з расійскімі грамадзянамі

і камунікаваць па-руску. «*Латвія ў цэлым адлюстраваная як выспа цішы і спакою – выдатнае месца, каб трымаць тут свае грошы і расслабляцца*» (с. 159). Расійскія СМІ ў сваіх эканамічных сюжэтах характарызуюць Латвію як «заходнюю» і «еўрапейскую» ў станоўчым сэнсе слова.

Зрэшты, устойліва згадваюцца і пэўныя негатыўныя характарыстыкі. Частка багацця Латвіі прыпісваецца яе «паразітычнай прыродзе», краіну абвінавачваюць у спагнанні завялікіх мытаў на транзіт нафты і прапановах прытулку для «брудных» грошай з Расіі. Да таго ж расійскія СМІ прыгадваюць Латвіі тое, што яна скардзілася Амерыцы і Еўропе на расійскі імперыялізм, эканамічны і палітычны ціск. У каментатараў з расійскага боку гэткія скаргі выклікаюць абурэнне або іронію, зазначае Нільс Муйжніекс. І нават цалкам станоўчыя апісанні Латвіі часцяком уключаюць у сябе згадку пра «дыскрымінацыю».

Матэрыялы пра Латвію дазваляюць расійскім СМІ намаляваць і вобраз самой Расіі – напрыклад, у звязку са страчанымі землямі, імперыяй і г.д. Падкрэсліванне малых памераў Латвіі, зазначае даследнік, дазваляе стварыць кантраст з веліччу Расіі, а жорсткая лінія Масквы датычна транзіту праз Вентспілс сведчыць пра ўмацаванне Расіі, яе супраціў Захаду. «*Хаця Латвія, як і раней, выклікала ўспаміны пра царскія і савецкія часы, яна працягвала сімвалізаваць Еўропу, якая традыцыйна выклікае ў Расіі не толькі станоўчыя асацыяцыі, але і цэлы спектр супярэчлівых эмоцыяў і меркаванняў – ад захаплення да агіды і комплексу непаўнавартасці*» (с. 160).

Нільс Муйжніекс падагульняе таксама ўсю публікацыю. На жаль, робіць ён гэта вельмі сцісла – літаральна на дзвюх старонках – і канцэптуальна неглыбока, бо фактычна падсумаванне зводзіцца да паўтору асноўных ідэяў кожнага артыкулу ў некалькіх сказах. Аднак робяцца і пэўныя высновы.

Найперш вылучаецца думка пра тое, што «*расійскія медыя сістэматычна прадукуюць вобраз Латвіі як ворага ў некаторых, але не ва ўсіх тэмах*» (с. 161). Найбольш негатыўна асвятляюцца праблема рускамоўнай меншасці, латвійскі погляд на гісторыю XX стагоддзя і далучэнне Латвіі да АПАД. У цэлым адмоўную агульную карціну змякчае толькі больш пазітыўнае асвятленне эканамічных і культурніцкіх тэмаў. Увогуле, дэманізацыя Латвіі – зручная схема для фактычна ўсёй расійскай палітычнай эліты, якая карыстаецца ёй і ў вонкавай, і ва ўнутранай палітыцы.

***

Агляданая кніга заслугоўвае пазітыўнай ацэнкі і сведчыць пра ажыўленне навукі на постсавецкай прасторы. Разам з тым, у ёй ёсць і відавочныя заганы. Перш за ўсё, аналізуючы матэрыял, аўтары часта не наважваюцца прапаноўваць больш маштабныя тлумачальныя схемы, якія дапамаглі б больш упарадкавана асэнсаваць праблему. Што

казаць, калі пара артыкулаў у кнізе ўвогуле пазбаўленыя нават простага падсумавання напрыканцы.

Да пэўных недахопаў кнігі адносіцца тое, што аўтары амаль цалкам абышлі параўнальную перспектыву, не назваўшы ніводнага іншага падобнага даследавання і не правёўшы аналогіяў. Адзіным выключэннем сталіся два даследаванні, згаданыя мімаходзь на першых старонках.

Трэба адзначыць, што існуе мноства даследчых працаў такога кшталту, і не толькі з часоў халоднай вайны, але і з разглядам сучасных прыкладаў. Варта згадаць даследаванне, прысвечанае пабудове вобразу асобных блізкаўсходніх дзяржаваў у заходніх медыя і вобразу Захаду на Блізкім Усходзе (напрыклад, Beeman, 2005; Haggai, 2009).

Таксама аўтары ў прынцыпе пазбягаюць спасылак на паняткі, канцэпцыі, аналітычныя сродкі і парадыгмы іншых даследнікаў. Змяшчэнне гэтага латвійскага даследавання ў міжнародны навуковы кантэкст шматкроць павялічыла б вартасць кнігі. Дый параўнанне самой праблемы адлюстравання вобразу Латвіі ў расійскіх СМІ з іншымі прыкладамі перадузятага адлюстравання вобразу адной краіны у медыя іншай пад уплывам палітычных рашэнняў па ўсім свеце таксама дазволіла б аўтарам значна паглыбіць разуменне латвійскай сітуацыі.

Цешыць, што МЗС Латвіі разумее важнасць навукі і крытычнага погляду, дазваляючы даследнікам зрабіць сваю справу. Анягож, нягледзячы ні на што і ў тым ліку сваю верагодную палітычную задачу, агляданая кніга адпавядае ўсім уяўленням пра навуковасць і не можа быць абвінавачаная ў відавочнай прапагандзе.

**Літаратура, якая згадваецца ў рэцэнзіі**

1. Beeman,W. O. (2005). *The Great Satan vs. the Mad Mullahs. How the United States and Iran Demonize Each Other*. Westport, CT. and. London: Praeger.
2. Haggai, Ram (2009). *Iranophobia. The Logic of an Israeli Obsession*. Stanford: Stanford University Press.